


# У ЗАМКУ

У крыжацкі замак трапіў падарожнік. Вялікі магістр фон Ульрых адчыніў жалезнае акно і, паказваючы на панадворак, дзе выстраіліся закаваныя ў зброю рыцары, спытаў:

— Як табе падабаецца маё панцырнае войска?

Падарожнік пацёр нос і адказаў:

— Грозныя воіны, але русакі такіх сцягваюць з сёдлаў бусакамі.

— Якія вандалы, супроць свяшчэннага рыцарства ўжываюць бусакі? — усклікнуў вялікі магістр. — Гэтых усходніх дзікуноў мы паратаўчэм у сваёй ступе, — глыбокадумна сказаў ён і перайшоў да супрацьлеглага акна. Тут фон Ульрых паказаў латнікаў, узброеных алебардамі.

Падарожны зноў пацёр нос і сказаў:

— Русакі такіх валяць аглоблямі. Латы лопаюцца, як скарлупа і застаецца яешня.

— Аглоблямі?! Поўная адсутнасць культуры ў ваенным майстэрстве, — сказаў фон Ульрых і даў загад рыцарам сабрацца на ваенную нараду.

Цвет рыцарства абмяркоўваў умовы ўсходняга паходу.

— Вешаць дзікуноў! — запрапанаваў вялікі магістр фон Ульрых.

— Каб гэта ўчыніць, трэба мець русакоў у сваіх руках, — адказаў падарожнік.

— Агнём знішчым! — усклікнуў фон Ульрых і, падняўшы руку ў гору праштваў у натхненні: — Мы пакліканы Богам вызваліць свет ад дзікуноў і клянемся гэта зрабіць, дык жа ў нас плыве тэўтонская кроў.

— Глядзіце, каб не захлябнуцца ў гэтай крыві, — сказаў падарожны.

— Узяць яго! Ерэтык! — зароў фон Ульрых.

Вечарам браты - рыцары развялі на замкавым дзядзінцы касцёр і пачалі смажыць падарожніка. Крыкі ахвяры патаналі ў харавым маліцвенным спеве.

Мілыя чытачы, гэта гістарычная карцінка вельмі нагадвае сённяшнія звычаі ў Заходняй Германіі. Толькі сёння фон Ульрых завецца Канрадам.

*Дзядзька Лявон*




### ЦАНА

У жніўны час гаспадар звярнуўся да «аўтастаповіча», каб той памог яму ў працы.

— Колькі заплоціце? — спытаў «аўтастопавіч».

— Заплачу столькі, колькі будзе варта твая праца, — адказаў гаспадар.

— Няма дурных, за такую цану я не буду працаваць, — сказаў «аўтастопавіч».

**Аляксандр Касцючук**
Клейнікі

### АДКАЗАЎ...

— Кажуць, што паравоз рухаецца пры дапамозе пары, дык чаму лазня не зварухнецца нават, а там жа столькі пары? — кажа Сымон да Кандрата.

— А ты падстаў калёсы пад лазню, тады не аглянешся, як яе на гэтым месцы не будзе, — адказаў Кандрат.

**Хвэдар Міхалюк**
Койлы

### САЛДАТ І БАБА

Было гэта яшчэ за цара. Да адной бабы зайшоў салдат і просіць, каб яна згатавала яму ежу і добра яе падскварыла:

— Колькі будзе ў ёй кружочкаў тлушчу, столькі заплачу рублёў, — сказаў салдат.

Баба хацела добра зарабіць. Яна ўліла шмат тлушчу, але ён зліўся ў адзін кружок. Такім чынам, салдат заплаціў адзін рубель.

**Марыя Мартонік**
Каралёў Мост

### У СУДЗЕ

Суддзя: — Ці хуліган жанаты?

Хуліган: — Не, кавалер... А чаму? Мо' маеце прыгожую дачку?

**Сика Ясвіловіч**
Пасынкі








Без слоў.



Без слоў.



— Калі ўжо нельга выратаваць маю кватэру...

# БАКСЁРЫ, БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫМІ!

— Крусны, што з табой? Тыдзень назад ты быў тоўсты, як турэцкі султан, сапраўдны геркулес. А цяпер? — з такімі словамі да мяне звярнуліся мае знаёмыя.

Я ўпорна маўчу, паціскаючы плячыма. Як ім расказаць, чаму я стаў падобны на худога факіра?

Час кваліфікацыйных спаборніцтваў па боксу набліжаецца з неймавернай хуткасцю. Маім праціўнікам на гэты раз павінен быць Рэцкі — шэф завода, дзе я працую. Асабіста я палічыў бы за лепшае выстаяць 10 раундаў супраць алімпійскага чэмпіёна з цяжкімі кулакамі, чым мець сваім праціўнікам Рэцкага.

Два гады назад, як толькі мы з ім паявіліся на рынгу, чую сяброўскія заўвагі з публікі: «Крусны, дай яму пабіць сябе, і твае рацыяналізатарскія прапановы будуць зараз жа прыняты».

Дарэмна я тады не прыслухаўся да добрых парад.



Галоўнае — не згубіць хуткасць.

Пасля бою мы вярталіся дадому разам. Ён увесь час мяне папракаў:

— Крусны, — гыркаў ён басам, — вы падарвалі мой аўтарытэт! Як вы адважыліся накаутам паслаць мяне на падлогу?! Можа, вы гэта зрабілі за тое, што камісія так нізка ацаніла вашы рацыяналізатарскія прапановы?

— Паважаны шэф, — асмеліўся я яму заўважыць, — не гневайцеся, на рынгу ж немагчыма думаць аб рацыяналізатарскіх прапановах, маючы перад сабой праціўніка... Запэўняю вас, я толькі думаў аб выйгрышы па ачках, толькі па ачках.

— Так, так, па ачках... Ха, ха! — раздражнёна рассмяяўся Рэцкі. — Ведаюць усе, за што вы мяне накаутавалі!

— Прабачце, шэф. Вы ж мне першы ўдар нанеслі, ды яшчэ такі, што ў мяне ў вачах пацямнела. І... я забыў, хто перада мной на рынгу.

— Вам трэба было б, Крусны, пачакаць, пакуль наступіць прасвятленне.

— Я так і зрабіў, але ў гэты момант вы мне паднеслі другую «пілюлю», прычым такую, ад якой у мяне з вачэй пасыпаліся маланкі. Божа, гавару я сабе. І тут гэта здарылася.

— Так, шкада, — прамармытаў сумна мой праціўнік, быццам бы спачуваючы мне.

Вось як гэта тады здарылася. Цяпер наўрад ці Рэцкі даруе мне гэты накаўт. На рабоце ён сочыць за кожным маім крокам, а на вытворчых нарадах здорава «распякае». І, галоўнае, запэўняе ўсіх, што мае рацыяналізатарскія прапановы ўпершыню былі прыменены ў мінулым стагоддзі. Перад саслужыўцамі ён нават пахваліўся, што з нецярпеннем чакае бліжэйшых спаборніцтваў па боксу, дзе ён з мяне зробіць «адбіўную катлету». І я вам скажу шчыра, што вельмі баюся гэтай сустрэчы.

Уявіце сабе, што будзе, калі я яму выб'ю пярэднія зубы або пакалечу левае вуха?! Мой кулак можа выпадкова апусціцца на яго жывот. І тады яму давядзецца, напэўна, перайсці на дыэту. Не, не!.. І я вырашыў: лепш самому пабыць на дыэце. Пагаладаю і перайду з сярэдняй вагі ў лёгкую. Гэта лягчэй, чым сустрэча з «начальствам» на рынгу.

**Пераклад з нямецкага.**